# Адкуль я ўзяўся?



(Паводле кнігі В. Шалапухі “Адкуль я ўзяўся?”)



Ты ведаеш, што птушкі і жывёлы,
рыбы і расьліны –
жывыя. Яны ня толькі могуць
рухацца, дыхаць і расьці, але і
нараджаць сваіх дзетак. А ці ведаеш ты,
як зьяўляюцца на сьвет хлопчыкі
і дзяўчынкі? Можа быць, дзеці
нараджаюцца з маленькіх ікрынак?
А можа, вылупліваюцца, як птушаняты,
зь яек?



Можа быць, дзяцей знаходзяць у капусьце?



А можа, малых прыносіць бусел?



Можа, сыночак ці дачушка – гэта навагодні падарунак, які Дзед Мароз кладзе пад ялінку?



А можа, малеча прадаецца ў краме?



Гэтыя казкі прыдумалі дарослыя для маленькіх дзяцей. А ты ўжо вялікі і ведаеш, што гэта ня так. Дзеці нараджаюцца ў сваёй мамы. Спачатку дзіця вельмі маленькае. Яно шмат сьпіць у ложачку.



Пасьля малы падрастае.



Становіцца яшчэ старэйшым ды ідзе ў школу.



Пасьля становіцца дарослым.

Праходзіць час,
і чалавек становіцца
дзядулем ці бабуляй.
Кожны дарослы быў
калісьці дзіцём. Твае тата і
дзядуля калісьці даўно былі
хлопчыкамі, а мама і бабуля –
дзяўчынкамі.
Усе дарослыя былі дзецьмі.
Усе дзеці стануць дарослымі,
калі падрастуць.
Ты таксама станеш дарослым.





Хлопчыкі і дзяўчынкі нараджаюцца на сьвет у сваёй мамы. У кожнага чалавека ёсьць мама. Дзіця пачынае расьці ў мамы ў жывоціку. Там для гэтага ёсьць адмысловае месца. Яно называецца маціца. Малечы там цёпла і ўтульна.

Адкуль жа ў жываце ў мамы бярэцца дзіця? У мамы ёсьць адмысловая малюсенькая клетачка. Калі яна злучаецца з такой жа маленькай татавай клетачкай, атрымліваецца дзіцятка. Яно пакуль такое маленькае, што ўбачыць яго можна толькі ў мікраскоп.







Паступова дзіця расьце. Спачатку яно падобнае на рыбку і памерам з твой пазногцік. Потым у яго зьяўляюцца ручкі, ножкі, вочы.





Ідзе час, дзіця расьце. Яно ўжо можа спаць і прачынацца. Цяпер яно чуе мамін голас і біцьцё яе сэрца. Малы злучаны з мамай адмысловай трубачкай – пупавінай. Празь яе ён дыхае і есьць.



Дзіця становіцца ўсё
большым, і мамін
жывоцік пачынае расьці,
каб маломy было там зручна.
Калі дзіцятка ня сьпіць, яно можа
штурхацца знутры ручкамі і
ножкамі. Мама гэта адчувае
і вельмі радуецца.



Калі дзіцятка яшчэ трохі падрастае і набіраецца сілаў, яму становіцца ў маміным жывоціку цесна. І яно выбіраецца вонкі – нараджаецца. Цяпер яно ўжо можа самастойна дыхаць і есьці.



Для таго каб нарадзіць дзіцятка, мама едзе ў адмысловы шпіталь – радзільню. Дадому мама вяртаецца ўжо зь дзіцём. Усе радуюцца і віншуюць маму і тату.



Паглядзі на свой жывоцік. Бачыш пупок? Гэта тое месца, дзе да твайго жывоціка прымацоўвалася трубачка-пупавіна.



Першы час дзіця
можа есьці толькі
маміна малачко, якое яно
высмоктвае з грудзёў.
Калі малы падрасьце,
у яго зьявяцца зубкі.
Тады ён зможа есьці
цьвёрдую ежу.



Мама і тата вельмі любяць сваё маленькае дзіця.

Кожнае дзіця падобнае на сваіх маму  і тату.



